


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (1131) ГОД XXII БЕЛАСТОК 30 КАСТРЫЧНІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.





* * *

*Што я шукаў? Што я пакінуў?*
*Куды ішоў? Куды пайду?*
*Мы ўсе сатканы з успамінаў,*
*Як вечар восеньскі з дажджу.*

*Расплавяць змрок агні рэкламы,*
*Трава слапы асфальт праб'е.*
*А я успомню словы мамы:*
*„Сынок, шанцуе хай табе“.*

*Прарэжуць шлях у зорак замець*
*Касмічных высяў караблі.*
*А ў сэрцы — вечны голас мамы:*
*„Сынок, будзь чэсны на Зямлі“.*

* * *

*Ад родных ніў пайшлі упрочкі*
*продкі.*
*Іх век суровы быў*
*і быў кароткі.*
*Іх вёскі лютая вайна*
*паліла.*
*Застаўся нам іх край, і хлеб,*
*і ліра.*
*Крані струну, бы дзень крані*
*мінуўшы, —*
*Пяюць і плачуць нашых продкаў*
*душы.*
*Звініць струна, звініць на поўны*
*голас,*
*Як быццам плача ў ціхім полі*
*колас.*
*Той плач, той спеў... Глухі, хто іх*
*не чуе.*
*Паміж балот яго душа*
*начуе...*
*Звініць струна, так, як сама*
*хацела.*
*І грэх на ліры той сыграць*
*няўмела.*

* * *

*Клічу вас у восень. Можа, вы*
*Пражылі, не чуючы ніколі*
*Дзікі голас ветру між травы,*
*Шум дажджу у апусцелым полі.*
*Клічу вас у восень. Там яна,*
*Дзе маўчаць скалелыя пракосы,*
*Дзе лясоў чырвоная сцяна*
*Падпірае белыя нябёсы.*
*Там спакой і воля. Вечнасць там.*
*Юных дзён не згубленыя словы.*
*І адтуль, насуперак гадам,*
*Прылятае вецер пастушковы.*
*З ім жыву, з ім мару, гавару,*
*З ім перамагаю боль і скруху.*
*Вецер той далёкі, як кастру,*
*Не дае душы маёй патухнуць.*

**Леанід Дайнека**



*Калектыў з Тапаркоў. Дайшоў да цэнтральнага агляду конкурсу „Беларуская песня — 77“ і паспяхова выступіў у Беластоку.* *Фота К. Свідэрскага.*

# АКЦЁРЫ І СПЕВАКІ!

Для нашых самадзейных акцёраў і спевакоў, як штогод, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя „Нівы“ арганізуюць у наступішым 1977/78 культурна-асветным сезоне **агляд самадзейных драматычных калектываў і конкурс „Беларуская песня — 78“.** Яны праводзяцца супольна з аддзелам культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, ваяводскімі праўленнямі прафсаюзаў, Саюза сацыялістычнай польскай моладзі, Таварыства польска-савецкай дружбы, гмінных спулдзельняў, сельскагаспадарчых гурткоў, Саюза дабравольных процілажарных каманд, Ваяводскім домам культуры, рабочым выдавецкім кааператывам „Прэса-Кніга-Рух“, ваяводскім спажывецкім кааператывам „Сполэм“.

Для правядзення абодвух мерапрыемстваў будуць скліканы арганізацыйныя камітэты, якія ў сваю чаргу склічуць камісіі ацэнкі ўдзельнікаў.

**У аглядзе і конкурсе могуць прымаць удзел усе, каму споўнілася не менш 15 год.** Школьная моладзь можа ўдзельнічаць у абодвух гэтых мерапрыемствах, але ў конкурсе „Беларуская песня — 78“ толькі ў адным: для школьнай моладзі або для дарослых, па свайму выбару.

Перад сёлетнім **аглядам самадзейных тэатральных калектываў** стаяць заданні: пашырэнне сцэнічнага мастацтва і падрыхтоўка шырокіх колаў грамадства да яго ўспрыняцця, умацаванне ідэй сацыялізму ў жыцці, павышэнне культуры роднага беларускага слова.

Кожны калектыў абавязаны падрыхтаваць **адну** п'есу. Журы не будзе ацэнь-

**(Працяг на стар. 4)**

## Разведка гаспадарнасці

### ВЕЦЕР У КЛУБЕ

Першага кастрычніка наведалі мы тры клубы: два клубы прэсы і кніжкі „Рух“ у Старым Корніне і Грабаўцы ды клуб селяніна ў вёсцы Карыцішк — усе ў адной гміне Дубічы Царкоўныя. Кінулася ў вока перш за ўсё тое, што няведама калі бываюць яны адкрыты. Не пададзены гадзіны іх працы.

Іншае гэта тое, што ў карыцішкім клубе не хапае шыбаў у вокнах (іх выбілі, але дагэтуль не ўставілі) і па клубе ходзяць скразнякі. Каб дапоўніць яго вобраз, неабходна дадаць, што яшчэ ўбачылі мы адарваную вадасцёкавую трубу, сарваную сетку агароджы ды паржавелыя брамы ля ўваходу з вуліцы.

Ля клуба ў вёсцы Грабавец таксама непаладкі: у ганачку ніводнай шыбы, а з аднаго боку выціснуў нехта цэлую раму, драцяную сетку прыдушылі да зямлі, у акружаючым агародчыку адно пустазелле, ды й сам будынак варта было б памаляваць знадворку.

Вывад робім такі: пра спамянутыя клубы трэба як найхутчэй задбаць. Яны ж з'яўляюцца тут адзінымі цэнтрамі культуры. Зараз у асенне-зімовы перыяд вечарамі збіраецца тут многа наведвальнікаў. Усе яны хочуць праводзіць свой свабодны час культурна ў кругу знаёмых і сяброў.

### У КАРЫЦІСКУ НЕ ПРАЕХАЦЬ...

Заглянулі мы ў гэтую даволі вялікую вёску ў адзін з будзённых кастрычніцкіх дзён. Вёска вылюднілася на акружаючыя яе палі. Сяляне, хто як мог, капалі бульбу. Рэдка каго ў такі час застанеш дома. Зайшлі да солтыса, але там таксама нікога не было. Пачалі раз-




глядацца. Вёска як вёска. Пераважаюць драўляныя хаты, але ёсць і мураваныя. Вось хаця б, як у солтыса і ў канцы вёскі ад Старога Корніна. Прыгожыя, крытыя этэрнітам, стадолы і мураваныя хлявы. (Яны здалёк кідаюцца ў вока, асабліва з асфальтаванай шашы са Старога Корніна ў Дубічы Царкоўныя). На многіх хатах тэлевізійныя антэны. Паабапал вуліцы шматлікія новыя платы ды жалезныя брамы, якія маюць за гонар мець у сябе тутэйшыя жыхары, маладое прысаддзе ды задбаныя панадворкі.

Нашу ўвагу прыцягнула вуліца. Не, не сваёй прыгажосцю. Яна такая дрэнная, што на ёй заграз не адзін самаход. Машыны неабходна было выцягваць, падчапляючы пару конскіх сіл. Налічылі мы дзве найбольш грузкія ямы. Якраз на абодвух канцах вёскі. Шафёрам раім, каб абміналі вёску Карыцішк. Пакуль не настануць маразы, на карыцішкай вуліцы гразі столькі, што не ўбярэш! Тут застрануць лёгка. А як выбрацца з балота, калі аднікуль дапамогі, бо ўсе ў полі?..

**(Працяг на стар. 4)**

# СВЯТА БУЛЬБЫ

У другую нядзелю кастрычніка на стадыёне ў Моньках адбылася ўрачыстасць, звязаная са святам бульбы. Месцам святкавання была гміна і горад Монькі таму, што гэта адзін з найбольшых у ваяводстве рэгіёнаў вырошчвання гэтай культуры. Самых выдатных прадукцыйных поспехаў (нават па 315 і 320 цэнтнераў бульбы з гектара) дабіліся Юзэф Прызмант з Васілёўкі (гміна Янаў), Эдуард Рафалоўскі з Жодзяў, Антон Савіцкі з Кучына і сялянскі калектыў Леха і Пятра Магнушэў-

**(Працяг на стар. 3)**



*Выступае манецкая моладзь. З боку хлопцы нясуць велізарную бульбу да ганаровай трыбуны.*



Сяргей Буцько са сваім малодшым сынам.

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ! Сяргей Буцько

На скраю лесу, па-суседску з вёскаю Залукі (Гарадоцкая гміна) раскінуўся Радунін. Пры ўездзе ў гэтую вёску на вароце знаходзіцца хата Сяргея Буцько, а з другога боку вуліцы яго гаспадарскія будынкі. Прыгожая васьмікласніца, яго дачка, паінфармавала нас аб тым, што бацька выбірае бульбу. І паехалі мы да яго на поле. Сяргей Буцько, выараўшы бульбу, увязаў пазычанага каня. Жонка пабурквала, відавочна, муж чымсьці разгнявіў:

— Вы яго не фатаграфуйце тут, ён мала калі бывае на полі. Сфатаграфуйце яго ў калодзежы.

Муж не звярнуў увагі на гаворку жонкі. Пры дапамозе сына высыпаў з кошыка ў мяшок бульбу і працягваў адказваць на нашыя пытанні. Але мы яшчэ не закраналі спраў, звязаных з калодзежамі. Слухалі мы аб тым, як суседу Буцько перацягваў на другое месца стадолу. Зруб прыцягнулі і паставілі на падрыхтаваны фундамент. У гэтай аперацыі брала ўдзел 6 чалавек. Працягвалася яна толькі дзве гадзіны. З Сяргеем Буцько накіраваліся мы да яго будынкаў.

Пры яго стадоле зацікавіў нас той факт, што няма ў яе вылётнага фундамента, а стаіць на бетонных фундаментных стаўбах. Сяргей Буцько даказаў нам, што ў такую стадолу не лезуць мышы і не зжыраюць збожжа. А збожжа Буцько малоціць толькі сам. Да малацілкі тарганкі ён падключае дмухаву сваёй прадукцыі, якая адносіць салому далёка на бок. Чысціць збожжа ўласнаручна зробленай архай, якая сартуе яго на буйнейшае і драбнейшае. Ён жа зрабіў абсталяванне для падсушвання ў старане сена. Да ўсяго выкарыстоўвае электрычны ток. Ён адначасова і самародны электраманцёр, і тэхнік, і гідраўлік, і столяр, і цесля. І хаты будаваў, і гаспадарчыя будынкі, і сталярку рабіў. У апошні час мадэрнізаваў ён касярку. Да яе падключае электрычны рухавік. Цяпер мантуе бетанярку і самаездны воз, які называе ён „лунаходам“, бо форма яго напамінае гэтую касмічна-лунную павозку. Мае яна 2 метры даўжыні і 1,20 метра шырыні, а вышыня кузава будзе мець 1/2 метра. Зразумела, што яна на самаходных калёсах і ўключацца ў рух будзе электрычным рухавіком з бетаняркі. Такога воза яшчэ, напэўна, нідзе няма. Магчыма, што Сяргей Буцько запачаткуе прадукцыю такіх невялікіх вясковых вазоў, якія вельмі прыдаліся б у гаспадарцы.

Сяргей Буцько сапраўдны майстар на ўсе рукі. Усё ўмее ён зрабіць, што звязана з вясковымі патрэбамі сялян. Зараз жа пасля вайны рамантаваў і рабіў абутак, табурэткі, сталы, вокны, вазы. Цяпер гэтага ўжо не робіць. Але дугі часам і цяпер яшчэ ён гне і для гэтага зрабіў спецыяльнае абсталяванне. Што трэба адрэзаць, або да чаго патрэбны дошкі, пілуе ён крайзэгай сваёй прадукцыі. Праўда, усё гэта цяпер у яго тэхнічнай дзейнасці адышло на далейшы план.

Галоўным яго заняткам з'яўляецца забеспячэнне сельскай гаспадаркі вадою. Ён стаў у гэтай галіне вялікім спецыялістам. Выспецыялізаваўся ў капанні калодзежаў. Работа даволі складаная і небяспечная. Але дзякуючы сваёй тэхнічнай думцы ўмеў ён механізаваць і гэту работу. Зрабіў ён своеасаблівы чарпак, нешта накшталт капачкі. Цяпер ён толькі кіруе сваёй спецыфічнай машынай, і яна капае.

Пры капанні калодзежа вельмі часта перашкаджае паверхнасная вада. І зноў, як ён сам кажа, заставіла бяда нешта зрабіць. Сяргей Буцько зрабіў помпу. Але, на жаль, падавала яна ваду толькі на вышыню 11 метраў. А калодзежы пераважна глыбейшыя, ды некаторыя вельмі глыбокія. Дык ён мантуе цяпер яшчэ адну помпу, якая можа падаваць ваду ўверх на наступныя 11 метраў. І цяпер лягчэй капаць калодзежы. Тым больш, што Сяргей Буцько даследуе грунт уласнаручна зробленым абсталяваннем і выбірае найбольш зручнае месца для будучага калодзежа.

Выкапаў ён ужо 300 калодзежаў. Такіх спецыялістаў у нас не хапае. Яны, як кажуць, на вагу золата. Вось менавіта таму мае ён многа заказаў. Прымае іх на два гады наперад. Цяпер выконвае заказы з 1975 года.

У сваёй вёсцы Радунін ён таксама зрабіў калодзеж. Выгляд яго даволі арыгінальны і практычны. Ад калодзежа адразу цячэ чыстая вада да крыпы. Дастаткова падняць некалькі разоў помпу. Да гэтага калодзежа, што па-суседску з яго хатаю, Буцько правёў трубаправод, і такім чынам мае на сваім панадворку ваду.

Тэхнічныя здольнасці перанялі ад бацькі сыны. Андрэй, які вучыцца ў рамеснай школе на вуліцы Сасновай у Беластоку, сам зрабіў „прастоўнік“ для ладавання акамулятараў, зрабіў „засіляч“ на пастаянны ток і дасканала абсталяваў сваю „цемню“ ў каморы сваёй бабкі. А малодшы сын зрабіў нядаўна возік на калёсах ад каляскі, якім драбнейшыя рэчы можна вазіць, а не насіць перад сабою або на плячах.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



Асеннія парадкі. Фота Я. Цялушэцкага.

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ВЯСНЯНКА**




*Серэд рэчанькі грудочок, грудочок —*
*звіла Касенька веночок, веночок.*
*Звіўшы, веночка злажыла, злажыла*
*і да таночку схадзіла, схадзіла.*
*Прыйшла з таночку — заснула, заснула,*
*крыехаў Ясенько — ні чула, ні чула.*
*— Уставай, Касенько, доўго спіш, доўго спіш —*
*чым сваю свекруху падарыш, падарыш?*
*— Што ж табе, Ясеньку, да таго, да таго,*
*да падаруначку да маго, да маго?*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ЛЮБІЦЬ СПОРТ



Калі ўвойдзеш у хату Матулевічаў, якія жывуць у вёсцы Кнышэвічы, што ў Шудзялаўскай гміне, перш за ўсё звернеш увагу на вісячыя на сцяне прыгожыя дыпломы, якія атрымаў іх сын Юрка за дасягненні ў спартыўнай дзейнасці. Адзін дыплом за I месца ў кіданні ядром падчас міжшкольных спаборніцтваў пачатковых школ у Сухінічах. Другі дыплом за II месца ў скаканні ўдаль, а трэці дыплом — за добры бег.

Юрка Матулевіч, гаспадарскі сын, закончыў у бягучым годзе 8 клас у сваёй вёсцы і вучыцца цяпер у сельскагаспадарчай школе ў Саколцы. Там далей будзе займацца спортам.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## ТАК БЫВАЕ...

## Паехаў у Шчэцін...

— Прывет, Марыся! Як жывеш? Што чуваць? А хлопчык гэта твой? — Аня засыпала пытаннямі сваю найлепшую школьную сяброўку, з якой 5 год не бачылася. Пацалаваўшыся з ёю, далей распытвала.

— Даўно замужам? Ці добры муж? А дзе жывеце? Якая кватэра?

Марыся з задавальненнем расказвала Ані аб сваім мужу, аб яго працы і заробках, аб кватэры, аб выездах мужа ў камандзіроўкі, аб справах на сваім прадпрыемстве і аб сваім маленькім Юрку.

— А ты замуж не выйшла? — звярнулася да яе Марыся.

— Думаю выходзіць, — адказала. — Даты яшчэ мы не ўстанавілі. Мо праз год, мо хутчэй. — І пачала гаварыць аб сваім каханым. — Ён не курыць, не п'яніца. Таксама часта выязджае ў камандзіроўкі. Да бацькоў сваіх ездзіла я з ім. Ім таксама спадабаўся.

— А колькі часу вы дружыце?

— Больш года. Але аб вяселлі ён нічога пакуль не гаворыць.

— Дык пара ўжо вам жаніцца. Ведаеш, чула я ад многіх, што калі хлопец доўга ходзіць да дзяўчыны, дык з ёю не ажэніцца. — Словы Марысі гучалі, як сардэчная рада сардэчнай сяброўцы. — Я таксама, каб не сказала свайму катэгарычна адносна жаніцьбы, дык хто знае, мо была б яшчэ незамужняя. Паўгода хадзіў да мяне і пра вяселле таксама не казаў. Дык я сама пачала пра гэта гаварыць і ўрэшце сказала, што дзявочыя годы кароткія, што я хачу быць яго жонкаю, што трэба арганізаваць вяселле, няма чаго марнаваць час. І так хутка мы пажаніліся. Аня, пагавары са сваім хлопцам сур'ёзна. Ты ж ужо не такая маладая. Абавязкова пагавары. Ёсць шмат такіх кавалераў, якія толькі зводзяць, толькі выкарыстоўваюць дзяўчат. А ты мне скажы па шчырасці — жывеш ты з ім ці не?

Аня не магла глядзець у праніклівыя вочы Марысі, замітусілася, і сляза стала круціцца на павецы. І ўпершыню ёй, сваёй школьнай добрай сяброўцы, прызналася, што блізкія адносіны ў іх ужо даўно.

Аня пачала забаўляць сынка Марысі і не ведала, што сказаць больш. Яна чакала далейшых рад сяброўкі, бо верыла ёй, так як калісьці, калі разам вучыліся ў сярэдняй школе, калі дзяліліся і радасцю і горам, і ніколі Марыся яе не ў чым не падвяла.

— Марыся, мілая! Прыдзі сёння да мяне вечарам. Будзе мой хлопец. Мы разам з ім пагаворым. У мяне гэта не выходзіць. Раз я яму ўспаміналa аб жаніцьбе, а ён мне адказаў, што жаніцьба не ўцячэ, бо ў яго многа сваякоў, больш ста чалавек трэба было б паклікаць на вяселле, дык трэба збіраць грошы, і таму з гэтым трэба пачакаць.

— Аня, ён крывіць душой. Абавязкова прыду вечарам, правядзем мы з ім размову так, як трэба.

Марыся запісала адрас, выслухала, дзе трэба выйсці з аўтобуса, як ісці, і рассталася з Аняй.

Адправіўшы мужа ў камандзіроўку ў Шчэцін, пачала апранаць свайго сына, пачала абдумваць, як яна будзе размаўляць з Аніным кавалерам, як будзе намаўляць да хуткай жаніцьбы, як акажа вялікую прыслугу сваёй сяброўцы. Прычасаўшы валасы і падмаляваўшы бровы і губы, адправілася Марыся з нязвыклай місіяй да Ані.

Калі стала набліжацца да Aнінага блоку, у якім тая мела сваю „кавалерку“ (пакоік з маленькай кухняй), стала моцна хвалявацца. Раскалаталася яе сэрца, быццам прадчувала нешта нядобрае. Пастукаўшы, адкрывае дзверы Анінай кватэры і, о гора, што ўбачыла! На каленях яе мужа сядзіць сіяючая, як радуга, Аня. Марыся ўвайшла і быццам акалавацела. Не магла адазвацца, так нешта сціснула яе за горла. Сынок Марысі тым часам улазіць на калені бацькі, Аня зусім разгубілася, а Марыся крычыць: „Тут у цябе Шчэцін!...“ Пасля прыцішыла тон, павалілася на тапчан і плакала з гора.

**Міхась Сваяк**




**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвала** Ліля Стоцкая з Лукі.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Сніцца, што іду я вуліцай горада і бачу: хтосьці выкінуў на вуліцу пасцель: падушкі, пярыну і нешта яшчэ іншае. Я паглядзела і думаю: во як людзі разбагацелі, гэта ж яшчэ добрая пасцель, а ўжо выкінулі. І я вырашыла: „Вазьму, мне яно яшчэ прыдасца“. І з гэтага ўсяго я выбрала пярыну, падушкі і ўваліла ўсё гэта ў гарадскі аўтобус, каб завезці дамоў. Але заехала я не дадому, а на нейкую незнаёмую вуліцу. Вылезла, але ўжо гэтай пасцелі не было.

Н. Б.

Мне прыснілася, што я ўбачыла недзе на лузе, сярод высокай зялёнай травы групку сваіх знаёмых з пэўнай установы. Я вырашыла далучыцца да іх. Падыходжу бліжэй, станаўлюся каля іх і раптам правальваюся, бо аказалася, што пад прыгожай зялёнай травой было балота.

Аня

**Н. Б.!** Баюся, што пагражае табе нейкая хвароба. Можа гэта быць нейкая заразная хвароба, якой набярэшся ад іншых. (Можа гэта быць непажаданая цяжарнасць). Ці так, ці сяк, усё будзе добра, бо з хваробы вылезеш.

**Аня!** Твой сон такі празрысты, што ты ўжо і сама, бадай, здагадалася. Твае знаёмыя, на якіх ты разлічваеш, цябе, на жаль, падвядуць.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




## Беларускія стравы

### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ ПА-МІНСКУ

На 1 кг бульбы патрэбна лыжка алею, 2 дкг маргарына, 1 яечка, 1 лыжка мукі, 20 дкг свініны, 2 зубкі часнаку, соль, перац.

Сцерці бульбу, дадаць муку, яечка, соль, вымяшаць, падсмажыць аладкі. Свініну падсмажыць, прапусціць праз мясарубку, дадаць соль, перац і пасечаны часнок. Аладкі складаць у чыгунок, змазаны тлушчам, перакладаючы іх фаршам. Запячы ў духоўцы.

### КАТЛЕТЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

На 35 дкг філе з курыцы трэба ўзяць 12 дкг пячонкі, 2 лыжкі смятаны, 2 дкг масла, 1 яечка, 3 лыжкі цёртай булкі, 6 дкг масла для смажэння.

Нарэзаную цыбульку крыху падсмажыць, дадаць кавалачкі пячонкі і падсмажыць яе. Пячонку з цыбуляй 2-3 разы прапусціць праз мясарубку, дадаць смятану і соль. Філе з курыцы з костачкай ад крыльца збіць і скруціць, як катлету, фаршыруючы пячонкай. Катлеты памачыць у яечка, а пасля ў цёртую булку і падсмажыць. Гатовыя катлеты паліць растопленым маслам. Падаваць са смажанай бульбай і зялёным гарошкам.

### ЯЕЧКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ ГРЫБАМІ

На 6 яечак трэба ўзяць 1,5 дкг сушаных грыбоў, 1 цыбуліну, 2 дкг масла, 1,5 лыжкі маянезу і 1,5 лыжкі смятаны.

Зварыць крутыя яечкі, аблупіць іх, нажом зрэзаць яечкі з тупога боку. Звараныя грыбы пасячы, падсмажыць, дадаць цыбулю і яшчэ крыху падсмажыць, пасля чаго спалучыць усё гэта з пасечанымі жаўткамі. Фаршыраваць яечкі, укладаць іх на талерку. Заліць соусам з маянезу і смятаны, прыбраць зелянінай.

### КАТЛЕТЫ „МІНСК“

На 40 дкг курынага мяса трэба ўзяць 2 яечкі, 10 дкг масла, 2,5 дкг сушаных грыбоў, 5 лыжак цёртай булкі, прыправы, зеляніну.

Курынае мяса (разам са скуркай) аддзяліць ад косці і прапусціць праз мясарубку, дадаць соль, прыправы, яечкі і вымяшаць. Фармаваць прадаўгаватыя катлеты, укладаючы ў сярэдзіну кавалачак масла і звараныя, дробна пасечаныя грыбы. Памачаць у цёртую булку, пасля ў яечка, яшчэ раз у цёртую булку і падсмажыць. Падаваць, пасыпаўшы зелянінай, з бульбаю, печанымі яблыкамі і зялёным гарошкам.

**Гаспадыня**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, другі год хаджу я з мужчынам, які старэйшы за мяне на 22 гады. Пазнаёміліся мы ў поездзе, вяртаючыся з Варшавы. Ён на мяне ўзіраўся ад пачатку, як толькі ўвайшла я ў вагон. Потым асталіся ў вагоне мы ўдваіх. Разгаварыліся. І ўжо тады ён мне спадабаўся паводзінамі, культурай, багатымі ведамі. Які інтэлігентны! Ніводзін малады хлопец, якіх я ведала, не мог раўнацца з ім. З таго часу мы пачалі спатыкацца. Ён гаворыць, што кахае мяне, света па-за мной не бачыць, але не падабаецца мне, што спатыкаемся мы нейк хаваючыся, баючыся, каб дзе хто нас не прыкмеціў. А ўжо на канікулах, калі прыехалі яго сын і дачка, якія вучацца ў вышэйшых школах, дык спатыкаліся мы вельмі рэдка. Але калі дзеці паехалі, мы ізноў пачалі спатыкацца часцей. А па-мойму, калі мы кахаем адно другое, чаго тады баяцца? Трэба зрабіць усё, каб быць разам назаўсёды. Чакала, мо ўрэшце што скажа на гэту тэму. Але ён нічога. Урэшце я сама адважылася сказаць, што хопіць ужо так хадзіць, каб узяў ён развод з жонкай і пажаніцца ўрэшце. І тут я заўважыла, што не мае ён на гэта ахвоты. Увогуле стараецца не закранаць гэту тэму. А мне ўжо 23 гады, і я хацела б выйсці замуж.

Аня з Беластока

Аня, дзяўчо наіўнае, пакінь ты яго як найхутчэй. Гэта ж намнога за цябе старэйшы, сямейны мужчына. Яго ж дзеці ў тваім узросце! Ты яму патрэбна вось так толькі, для забавы. Спадабаўся ён табе паводзінамі, культурай, інтэлігенцыяй. Гэта характэрны для пажылых мужчын кручок на маладых дзяўчат. І ён добра бярэ. Але ненадоўга. Асабліва, калі пажэняцца такія людзі, дык хутка маладая жонка прыходзіць да вываду, што не партнёр ён ёй, і тады бачыць, колькі кругом маладых хлопцаў.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж і жонка пабудавалі сабе дом на пляцы, які з'яўляўся асабістай уласнасцю мужа, і з матэрыялу, падрыхтаванага мужам перад шлюбам. Праз некалькі год супольнага жыцця яны разышліся і атрымалі развод. Вядзецца спор аб падзеле маёмасці, якая была набыта за час супольнага жыцця. На думку мужа, дом з'яўляецца толькі яго ўласнасцю, бо знаходзіцца на яго зямлі і пастаўлены з яго матэрыялаў. На думку жонкі, дом, пастаўлены супольнымі сіламі і ў часе супольнага жыцця, з'яўляецца супольнай уласнасцю. А як гэта вырашае закон?

АДКАЗ: Па закону дом з'яўляецца ўласнасцю мужа, бо пабудаваны на яго пляцы. Не значыць гэта, што жонцы не прыслугоўваюць ніякія правы, звязаныя з домам. Вартасць дома павінен ацаніць эксперт. З гэтай вартасці на карысць мужа трэба адлічыць вартасць матэрыялаў, якія былі набыты ім перад шлюбам і таму з'яўляюцца яго асабістай уласнасцю. Вартасць, якая астанецца пасля гэтага, з'яўляецца супольнай уласнасцю былога мужа і жонкі, паколькі набыта яна ў часе супольнага жыцця. Пры падзеле маёмасці жонка не можа патрабаваць, каб дом быў прыдзелены ёй. Дом астанецца мужу, а жонка павінна атрымаць сплату, г.зн. палавіну вартасці супольнай уласнасці.

## Этнаграфічнае акенца



**Вёска Рыбакі.** **Фота В. Буры.**




4

Мякка, амаль бясшумна слізгацела лодка да выхаду з гавані. Капітан-лейтэнант Паулік і яго памочнік обер-лейтэнант Ноермеер у шэрых плашчах стаялі на мосціку. За бартамі праплывалі цёмныя сілуэты невялікіх ваенных караблёў. Вось справа цяжкія трубы пасажырскага парахода. Паулік і Ноермеер ведалі яго. Гэта санітарны транспарт „Мемель“, нагружаны цяжкапараненымі з Усходняга фронту. На белых палосах вакол труб відаць чырвоныя крыжы.

Лодка ўвайшла ў вузкі праход паміж міннымі палямі, і Паулік усім свабодным ад вахты загадаў выйсці на палубу. Перасцярога не была лішняй: некалькі тыдняў назад у гэтым месцы напароўся на выпадковую міну транспартнік. Неўзабаве лодка прайшла небяспечны пояс.

— Падрыхтавацца да пагружэння! — скамандаваў Паулік. Пачыналася зона вартавых суднаў.

— Пагружэнне!

З шыпеннем і клекатаннем вада ўварвалася ў цыліндры. Лодка пайшла ў глыбіню. Ссунуўшы на патыліцу фуражку, Паулік прыпаў да перыскопа. Часам ён заглядваў у суседні слыхавы адсек, дзе з навушнікамі на галаве сядзеў каржакаваты старшыня Ханс Шроткамп, напружана сочачы за стрэлкай прыбора.

— Што-небудзь чутна, Шроткамп?

— Нічога, гер капітан-лейтэнант.

Калі камандзір зазірнуў трэці раз, Шроткамп не вытрымаў:

— Куды на гэты раз, гер лейтэнант?

— У Шанхай.

— Такім чынам, курс — пекла, — падагуліў Шроткамп. Жарт камандзіра супакоіў яго. Магчыма, і сапраўды цяпер не баявы выхад, а лёгкая прагулка.

— Не каркай! — Паулік засмяяўся і падняўся да сябе, у рубку. Ханс пагля-дзеў яму ўслед.

— Талковы хлопец, — падумаў ён, — з ім прынамсі можна хоць слоўцам перакінуцца, не тое, што з гэтым псіхам Ноермеерам.

5

— Ноермеер, паглядзіце ў другі перыскоп. Ды хутчэй вы, дурань!

Обер-лейтэнант Ноермеер прыпаў да другога перыскопа.

— Чыста зроблена, гер капітан-лейтэнант.

Ён засмяяўся.

— Вы нічога не заўважылі, Ноермеер?

— Каробка гарыць, гер капітан-лейтэнант.

У той момант нельга было ўбачыць нічога больш. Шчыльнае воблака дыму ахутала трубу, на якой вострае вока Пауліка толькі што разгледзела шырокія палосы чырвонага крыжа.

Але вось крыж убачыў і обер-лейтэнант. Судна ўжо развалілася напалам, і пярэдняя частка, задраўшы нос, ішла пад ваду. На борце, асветлены пажарам, свяціўся надпіс „Мемель“. Гэта было нямецкае шпітальнае судна, якое Паулік, ды і ўся каманда, яшчэ нядаўна бачылі ў роднай гавані.

— Мы памыліліся, Ноермеер, — прастагнаў Паулік, — божа мой...

Ён ухапіўся за перыскоп, баючыся ўпасці і закрычаў на ўсю сілу: — Усплыць! Неадкладна ўсплыць! Хутчэй жа, ідыёты!

Нервы яго ўпершыню здалі.

З шыпеннем і ровам сціснутае паветра выгнала з цыстэрны ваду. Лодка ўсплыла на паверхню.

— Поўны ўперад!

Лодка пайшла да гінучага судна. Паулік выхапіў з унутранай кішэні канверт з радыёкодам, сарваў пячатку, кінуўся да радыста. Твар яго быў заліты потам, вочы гарэлі, як у вар'ята.

6

— Незразумелая радыёграма, гер адмірал. — Афіцэр сувязі ледзь прыкметна пацiснуў плячыма, паклаў лісток на стол шэфа.

На твары яго было здзіўленне.

Адмірал кінуў кароткі позірк на палкоўніка, які, развалiўшыся ў крэсле, пакурваў цыгарэту, і загадаў сувязісту выйсці.

— Радыёграма ад Пауліка.

Палкоўнік фон Хасель павярнуў галаву. Яго жоўты маршчыністы твар ясна выказваў неспакой. Ён павольна патушыў цыгару.

Адмірал паспешліва расшыфраваў тэкст. „Выпадкова тарпедаваў нямецкі санітарны транспарт „Мемель“. Параход тоне. Спрабую выратаваць людзей. Чакаю дапамогі і далейшых указанняў. Капітан-лейтэнант Паулік“.

— Што ж рабіць, гер оберст? — адмірал стаяў ля карты і, кусаючы губы, разглядаў блакітны квадрат Балтыйскага мора, у якім знаходзіліся цяпер лодка Пауліка і тонучы „Мемель“.

— Калі б вы зрабілі, як я раіў, гер оберст, нічога гэтага не адбылося б.

Палкоўнік фон Хасель таксама ўстаў. Ён быў не менш усхваляваны, чым адмірал. З ветлівым паклонам ён сказаў:

— На жаль, ваша парада была непрымальная. Я маю дакладны загад.

(Працяг будзе).

# ТРЫБУНА чытачоў

## Пастаўце знак у Нараўцы!

Нараўка і ваколіца з кожным годам становіцца месцам усё больш цікавым для турыстаў. Рака, лес, цэнтр спорту, а ў апошні час пабудова басейна „Семяноўка" прыцягвае сюды шмат людзей.

Выбраўся і я аднойчы матацыклам. І вось з гэтай паездкі заўвага. У Нараўцы пры выездзе з вуліцы 1 Мая на вуліцу Міцкевіча няма дарожнага знаку. Людзі кажуць, што калісьці быў тут знак, які абазначаў, што вуліца Міцкевіча важнейшая. Цяпер нібы абедзве вуліцы аднолькавыя. Мясцовыя шафёры, выязджаючы з 1 Мая самі прапускаюць едучых у напрамку Масева, але незнаёмыя людзі могуць кіравацца правам правай стараны, і гэта можа закончыцца не надта прыемна.

Варта падумаць таксама пра знакі на раз'ездзе трох вуліц пры гасподзе. А калі ехаў я ў Луку, дык і ад Ляшукоў, і ад Ляўкова пры дарозе стаяць толькі стоўбікі, ды невядома, што яны абазначаюць. Здагадайся, маўляў, сам, чалавеча, які там знак быць павінен.

**Асот**

## Скупка бульбы

У Дубічах Царкоўных на пункце скупкі бульбы вялікі рух. На гэты добра працуючы пункт сяляне вязуць бульбу з далёкіх вёсак. За 100 кг селянін атрымлівае 210 зл. Ёсць гаспадары, якія прадалі ўжо па 20 тон бульбы, а то і больш. Найбольш бульбы вязуць гаспадары з вёсак Старакорнін і Махнатае. Хутка і спраўна працуюць на гэтым пункце загадчыкі склада — Пётр і Павел Леанчук. Умеюць хлопцы арганізаваць работу!

**М. Панфілюк**

## На нашых дарогах!

Хто часта едзе дарогай з Беластока ў Бельск, той напэўна заўважыць, як „хутка" ладзяць кавалак шашы каля Плёсак. Ужо доўгі час праца стаіць тут на тым самым месцы. Нельга праехаць. На шашы пануе балаган. А па гэтай дарозе ездзіць вельмі многа машын. Калі прыдзе зіма, работа зусім стане. Таму трэба старацца, каб як мага хутчэй закончыць яе.

**Дубінка**

## Шудзялава змяняе аблічча

За апошні час вельмі многа змянілася ў гмінным вёсцы Шудзялава. Тут пабудавалі дзве крамы і магазін. Таксама цэнтр аховы здароўя. Пры ім вырас блок на восем кватэр. Па ўсёй вёсцы ўжо ёсць тратуары. А насупраць гміны прыгожы парк. У наступным годзе пачнецца пабудова зборнай школы ў Шудзялаве і вялікай стражацкай рамізы.

**Віт**

## ГРОШЫ Ў БАЛОЦЕ

Мінула два гады, як раённае прадпрыемства меліярацыі ў Бельску праводзіла дрэнаж палёў у вёсцы Чаромха. Работа была прынята грамадскай камісіяй, у якой удзельнічалі і прадстаўнікі вёскі. Аднак потым у карыстанні выявілася, што Бельскае прадпрыемства меліярацыі дрэнна выканала свае абавязкі. Вось што гаворыць Ілья Л.: „Дрэнна зрабілі дрэнаж у нашай вёсцы. Мне, напрыклад, на полі хацелі заваліць равы, не палажыўшы фільтраў. Добра, што я ўгледзеў, дык бацька злажыў рэкламацыю". Рыгор Б.: „У мяне на полі вада не адплывае равамі, а праз фільтры б'е фантанам уверх. На меліярацыйных равах ніхто не правodзіць кансервацыі, а грошы плаціць трэба, дык плацім".

Калі я спытаў у гміннай управе інструктара Янку Качаноўскага аб гэтай справе, той пацвердзіў, што ў адрас РПМ у Бельску сапраўды было многа скарг, ды тыя не спяшаюцца з вырашэннем сялянскіх праблем. Часта даводзіцца па некалькі разоў званіць да іх у адной справе, або некалькі пісем высылаць.

З гэтага вывад, што Раённае прадпрыемства меліярацыі ў Бельску не спяшаецца быць уражлівым на сялянскія скаргі. Ці ўраднікі таго прадпрыемства зразумеюць урэшце, што дрэннай работай увалілі ў балота сялянскія грошы?

**(ус)**

## Сустрэча маладых леснікоў

Лясны тэхнікум імя ген. А. Вашкевіча ў Белавежы прымаў удзельнікаў VI міжнародных спаборніцтваў лясных школ. Спаборніцтвы адбыліся ў Загнанску, у Свентакшыскіх горах. У турніры змагаліся вучні лясных школ з Балгарыі, Чэхаславакіі, ГДР, СССР, Венгрыі і Польшчы. Потым маладыя леснікі наведалі Варшаву, а пасля прыехалі ў Белавежу. Тут урачыста прывітаў іх дырэктар белавежскага тэхнікума інж. Тадэуш Макшыцкі супольна з усім настаўніцкім калектывам. Потым дэлегацыі наведалі помнік загінуўшых на Броўскай дарозе. Вечарам ля кастра ва ўрочышчы Старая Белавежа адбыліся гульні.

На другі дзень адбыўся сімпозіум, прысвечаны працэсу навучання ў лясных звышпачатковых школах. Прымалі ў ім удзел усе дырэктары лясных тэхнікумаў у Польшчы. Моладзь наведала прыродазнаўчы музей БНП і запаведнік прыроды. Пасля абеда агледзелі белавежскі лясны тэхнікум. Вечарам адбылося ўрачыстае заканчэнне спаборніцтваў. Індывідуальна першае месца заняў Войцех Станкевіч з тэхнікума ў Белавежы, другое — Андрэй Зюлкоўскі з таго ж тэхнікума і трэцяе — Ян Вінцлер з тэхнікума ў Стрэшаве (Чэхаславакія). Калектыўна першае месца заняла Польшча, другое — Чэхаславакія, трэцяе — СССР. На трэці дзень госці паглядзелі Гайнаўку, дрэваапрацоўчы камбінат, праехаліся па Белавежскай пушчы і пасля, вярнуўшыся ў Белавежу, развіталіся з нашай краінай. Кожная дэлегацыя атрымала на памятку альбом з Белавежы.

**Веслаў Пятроўскі**
Фота Кшыштафа Шкопка



*Момант уручэння дыплома калектыву з Ляснога тэхнікума ў Белавежы, які заняў першае месца ў групе калектываў.*

## У гонар Кастрычніка

З нагоды 60-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў цэнтры прафесіянальнага навучання ў Чаромсе адбыўся грамадскі пачын, у якім прынялі ўдзел 52 вучаніцы. Яны перапрацавалі разам 416 гадзін. Вучаніцы ўпарадкавалі школьную плошчу.

**(ус)**

## Стане ці не стане?

Жыхары Супраслі, якія чакаюць на прыпынку ПКС каля прадпрыемства драўніннай прамысловасці, ужо нейкі час наракаюць, што цяжка даехаць на працу ў Беласток. Прычына такая, што больш цяпер ездзіць тут аўтасанаў, а менш аўтобусаў з прычэпам. Асабліва цяжка папасці на аўтобус ад $5^{50}$ да 7 гадзіны. Ніхто з чакаючых не мае ўпэўненасці, які аўтобус ПКС возьме яго. Такая ж сітуацыя бывае ад гадзіны $12^{10}$ да $14^{10}$. У выніку гэтага многія спазняюцца на працу.

**(гай)**

## ДУХАВЫ АРКЕСТР ЧЫГУНАЧНІКАЎ

У чаромхаўскім доме культуры „Калеяж" працавалі многія мастацкія калектывы — драматычныя, харавыя, эстрадна-вакальныя. Зараз не засталося ад іх і следу. Дзейнічае толькі музычны гурток пад кіраўніцтвам Вальдэмара Савіцкага і духавы аркестр чыгуначнікаў пад кіраўніцтвам капельмайстра Казіміра Блашкевіча. Гэты апошні быў арганізаваны ў палове лістапада мінулага года. Ініцыятарам тут быў кіраўнік дома культуры Мікалай Гарадкевіч супольна з Лявонам Ляскоўскім і Юзэфам Дубковічам.

Чаромхаўскі аркестр налічвае 22 асобы. Два разы ў тыдзень адбываюцца рэпетыцыі. І хоць члены аркестра пачыналі вучобу ад пачатку (толькі чацвёра з іх да таго часу ігралі на інструментах) на працягу васьмі месяцаў вывучылі 12 твораў. Далі дзесяць канцэртаў. З праграмай сваёй выступалі ў першамайскім паходзе, на 22 ліпеня і на гмінных дажынках. Да святкавання 60-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі падрыхтавалі творы савецкіх кампазітараў. Члены аркестра вельмі дысцыплінаваныя і таму ў іх вялікія поспехі.

**Ул. Сідарук**
Фота Г. Навіцкай

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Саколцы чалавек, праходзячы праз рэйкі, папаў пад манеўруючы вагон і загінуў на месцы.

А ў Моньках загінула жанчына; вышаўшы неасцярожна з-за аўтобуса ПКС, яна папала пад „Стар".

На шашы Беласток-Заблудаў каля вёскі Кур'яны „Фіят-125" хацеў абмінуць фурманку і якраз на павароце стукнуўся з „Зілам-555". Шафёр „Фіята" загінуў на месцы, а іншыя пасажыры былі адвезены ў бальніцу.

У Бельску шафёр „Шкоды" наехаў на сярэдзіне вуліцы на жанчыну, якая раптоўна ўвайшла на вуліцу. У жанчыны паламаны ногі.

У Гайнаўцы на скрыжаванні вуліц стукнуліся „Фіят" з матаролерам. Пасажыр матаролера зламаў левую нагу.

На шашы Беласток-Саколка каля вёскі Сураж „Ельч" наехаў і забіў на дарозе дзве каровы. Каровы гэтыя вёў іх гаспадар, але ў пэўным моманце яны, спужаўшыся, вырваліся і папалі пад самаход.




Н. В., Гайнаўка. На жаль, нотаў песні „Kolorowe jarmarki" у нас няма.

## Адна з найлепшых



Ужо год часу Ірэна Мартыновіч працуе ў сваім кіёску „Рух" № 205 у Орлі. За гэты кароткі час новая прадаўшчыца дабілася вялікіх поспехаў. Дынаміка продажу дасягнула ў гэтым паўгоддзі рэкорду і належыць да найвышэйшых на тэрыторыі бельскага аддзела „Рух" — 168,3%. З такой нагоды пані Ірэна атрымала словы падзякі і ўзнагароду дырэктара Беластоцкага выдавецкага кааператыва „Прэса-Кніжка-Рух".

Ірэна Мартыновіч вельмі дбае пра свой кіёск. А купіць у яе можна ўсё: сшыткі, мыла, розныя дзіцячыя гульні, газеты, супрацьсонечныя і... ружовыя акуляры.

Чыста і парадак у кіёску. А прадаўшчыца ветліва адносіцца да пакупнікаў. Працуе штодзённа па 13 гадзін і штодзённа таргуе па 5-6 тысяч злотых. Яшчэ не здарылася, каб гэты кіёск быў закрыты ў рабочы час, як часта здараецца ў іншых кіёсках і крамах. Хачу сказаць і пра тое, што яна вялікі прапагандыст нашай роднай „Нівы". Не здарылася, каб хоць адзін экземпляр „Нівы" ў яе застаўся не прададзены.

**П. Д.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „У ГАЙНАЎСКІМ ГС-е", „Ніва" № 38/1125 ад 18 верасня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W HAJNÓWCE.**

Gminna Spółdzielnia „Samopomoc chłopska" w Hajnówce uprzejmie informuje, że krytyka była słuszna. Obecnie przy instrukcji przeciwpożarowej zostały umieszczone numery telefonów miejscowej straży pożarnej, milicji obywatelskiej oraz pogotowia ratunkowego.

Za zwróconą uwagę Gminna Spółdzielnia w Hajnówce serdecznie dziękuje.

**Zastępca Prezesa
d/s Handlu, Produkcji i Usług
Bazyl Niczyporuk**

**Да заметкі „НЯДБАЙНАСЦЬ", „Ніва" № 38/1125 ад 18 верасня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W ORLI.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Niedbalstwo" z 38/1125 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 18 września 1977 roku — Urząd Gminy w Orli informuje, że w bieżącym roku na terenie całej osady Orla prowadzone są roboty związane z budową wodociągu ulicznego. Po zakończeniu tych prac ulice i chodniki zostaną doprowadzone do należytego stanu, co wpłynie na estetyczny wygląd osady.

Co się tyczy miejscowego parku, to wszystkie alejki zostały oczyszczone. Przy jego porządkowaniu aktywnie pracowała tutejsza młodzież szkolna.

**Naczelnik Gminy
mgr Mikołaj Ziniewicz**

**Да публікацый: „ХТО НА ГЭТА АДКАЖА?" і „КЛУБ У ТРАСЦЯНЦЫ", „Ніва" № 38/1125 ад 18 верасня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W NARWI.**

W odpowiedzi na publikację pt. „Kto na to odpowie?" zamieszczoną w tygodniku „Niwa" (numer 38/1125) z dnia 18 września 1977 roku — Urząd Gminy w Narwi uprzejmie komunikuje, iż droga Narew-Ancuty jest drogą państwową, a w związku z tym tutejszy Urząd nie ma możliwości jej przebudowy.

W tym samym numerze „Niwy" była również zamieszczona notatka sygnalizująca potrzebę remontu Klubu Prasy i Książki „Ruch" w Trześciance. Odpowiadając informujemy, że Klub „Ruch" klasyfikuje się do remontu kapitalnego, lecz Urząd Gminy nie posiada na ten cel środków. Remont pieców oraz malowanie ścian będą przeprowadzone jeszcze w tym roku.

**Naczelnik Gminy
Witalis Piekarski**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар




# КАЛЕГІ

— Грышка, ты?!
— Я!
— Колькі гадоў не бачыліся?
— Лічы, дзесяць.
— Больш! У якім класе разлучыліся?
— У восьмым. Мяне тады пакінулі на другі год.
— Ага, успомніў. Ты тады дужа футболам захапляўся...
— А як жа, днямі на полі прападаў. Ды і не раскайваюся...
— Спорт — здароўе. Вунь, які ты!.. А дзе цяпер працуеш?
— На заводзе...
— І я на заводзе. А ты хто: слесар, токар?
— Вяры вышэй!
— Майстра?
— Інжынер.
— Ну, малайчына! Я таксама інжынер. Калегі!

Грышка нечага збянтэжыўся. Сунуў руку, ды я не хацеў вось так хутка развітвацца.

— Чакай, Грышка, — затрымаў я яго. — А працай задаволены?

— Мной пакуль задаволены, — важна сказаў ён. — Хай паспрабуюць! Мяне вунь „Уралмаш" запрашаў.

— Што ты кажаш? Ну, і Грыша! А на якую пасаду? Можа галоўнага?

— А ты што думаў! У мяне, брат, хватка. Я, брат, усе камбінацыі завяршаю...

— Якія камбінацыі!..

Грышка паглядзеў на мяне, як на вар'ята.

— Ты хіба газет не чытаеш? „Майстар завяршальнага ўдару", — во як мяне называюць. Я, брат, калі б'ю, дык у дзевятку. Кеміш цяпер?

Я збянтэжыўся. Нічога не разумеючы, прамармытаў:

— Я, Грыша, жыву сумленна, на заводзе працую.

— А я што, краду? У мінулым годзе атрымаў шыкоўную кватэру ў цэнтры горада. Думаеш, хабар даў? Дудкі! Самі ўпрошвалі. Дырэктар завода ўгаворваў нават: засяляйся ды засяляйся.

— Брашы ды знай меру! Які дурань адмовіцца ад кватэры ў цэнтры горада?

— Я адмаўляюся! Мне ў любым горадзе кватэру дадуць — махну толькі ножкаю.

— Якім ты ў школе быў балбатуном, такім і застаўся. За прыгожыя вочы кватэры не даюць.

— Не за вочы. Кажу ж табе: за ногі!

— Прычым тут ногі?

І здагадка як маланкай, раптам пеканула мяне:

— Чакай, чакай! Ты кім на заводзе працуеш?

— Нікім! Я толькі грошы атрымліваю па стаўцы інжынера, зразумеў? — Ён глянуў на свой залаты гадзіннік. — Прабач, спяшаюся! Сёння ў нас адказны матч. Прыходзь на стадыён. — І, падхапіўшы сваю спартыўную сумку, напханую мячамі, спыніў таксі.

**Мікола Корч**



— *Ён найлепшы паляўнічы, якога я знаю!..*

# НІЎКА



— *Не, хопіць: мне яшчэ весці грузавую аўтамашыну.*

## МІНІВЕРШЫ

*Быў маленькі Сашка —*
*Маме было цяжка.*
*А як вырас Сашка —*
*Маме вельмі цяжка.*

✲

*Казаў — яму для шчасця*
*Не хапае Насці,*
*Цяпер жа ўсе няшчасці*
*У яго з-за Насці.*

✲

*Інжынер Авечкін*
*Добра ведаў справу:*
*З прыгажуні рэчкі*
*Ён рабіў канаву.*

**Віктар Бародзіч**




### КЕМЛІВЫ

Завітаў сусед да суседа якраз у час абеду. Пасадзілі таго за стол, налілі супу. Спадабаўся суп суседу. Не заўважыў, як амаль усё з'еў. А гаспадыня — не далівае. Тады госць сам знайшоў выйсце: узяў паўлыжкі солі, размяшаў на дне міскі, пасыпаў і кажа:

— Ёлкі-палкі! Перасаліў я, гаспадынька, далі яшчэ супу.



**...Яго жыццёвае крэда: менш ведаеш — мацней спіш.**

### У ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Усё прабаваў, ды не магу адвучыцца ад курэння, — скардзіцца Кастусь.

— А вы папрабуйце цукеркі, — раіць яму доктар Знахарук.

— Прабаваў, ды яны не гараць.

### ВОСЬ ЯК!

— Як ты цудоўна апранута! Муж змяніў месца працы? — пытаюць гарадскую задрыпанку.

— Не, я змяніла мужа.

### А ШТО?

Сустрэліся паляўнічыя.

— Слухай! А дзе ж твая стрэльба?

— Навошта яна мне? Я ўсё роўна страляць не ўмею.

— Чаго ж тады ідзеш на паляванне?

— Ці ж усе вяртаюцца адтуль са здабычаю?



*Хуткая дапамога.*

### ХІТРЫ

На ўроку фізікі настаўнік пытаецца ў вучня:

— Што ты будзеш рабіць, калі электрычны прас перагарыць?

— Занясу ў майстэрню.

### СУСТРЭЧНАЯ ПРОСЬБА

Цыганка падыходзіць да маладога задрыпанца і кажа:

— Дай дзесятку, а я тваю долю адгадаю.

— Я табе трыццатку дам, адгадай мне шэсць лічбаў у тота-лотку.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Валянціны Тарасюк і Алі Васілюк з Курашава, Валянціны Камаровай і Валянціны Касцючук з Клейнік, Ірэны Несцярук з Дубіч Царкоўных, Марысі Усцілка з Сухініч (і 21 дзяўчыны з ЗСР у Саколцы), Ірэны Троц з Рэдут, Ізабелы Віснеўскай, Уршулі Дэмбоўскай, Марылі Яблонскай, Бажэны Эдзісаўскай з Беластока, Валі і Галіны Алямпеюк, Ірэны і Алі Мартынюк з Бабройкі, Алі Панькоўскай з Масева II, Гражыны, Багусі, Бажэны, Тэрэсы, Крысціны, Малгажаты, Анны, Ядвігі, Марыі і Зосі з Шымак змяшчаем песню*

## NIE SPOCZNIEMY

słowa: Agnieszka Osiecka
muzyka: Seweryn Krajewski

śpiewają
Seweryn Krajewski
i Czerwone Gitary

Nieutulony w piersi żal,
Bo za jedną siną dal
— druga dal...
Nie spoczniemy,
Nim dojdziemy,
Nim zajdziemy
W siódmy las,
Więc po drodze,
Więc po drodze
Zaśpiewajmy
Chociaż raz!

Nienasycony w sercu głód,
Bo za jednym nocnym chłodem
— drugi chłód...
Nie spoczniemy,
Nim dojdziemy,
Nim zajdziemy
W siódmy las,
Więc po drodze,
Więc po drodze
Zaśpiewajmy
Jeszcze raz:

Ref.
Niewytańczony wybrzmi bal,
Bo za jedną siną dalą
— druga dal,
Nieuleczony uśnie ból,
Za pikowym czarnym królem
— drugi król...
Niepocieszony mija czas,
Bo za jednym czarnym asem
— drugi as,
Nie spoczniemy itd.

Czy warto było kochać nas?
Może warto, lecz tą kartą źle
grał czas,
Nie spoczniemy,
Nim dojdziemy,
Nim zajdziemy
W siódmy las,
Więc po drodze,
Więc po drodze
Zaśpiewajmy
Jeszcze raz



*Без слоў.*



*Партрэт суседкі.*

### У КАРЧМЕ „БАБСКІЯ СЛЁЗЫ"

— Паслухайце, — звяртаецца да карчмаркі старшыня Аглаблёвіч, — ваша катлета не надта вялікая...

— А ці ж у памерах справа, — адказала карчмарка. — Есці вы яе затое будзеце даўжэй, чым звычайную.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Начальнік аддзела кадраў вырашае пытанне аб падборы дзяўчыны на пасаду сакратаркі дырэктара. Ён адкідае адну кандыдатку за другой. Урэшце з'яўляецца дзяўчына, якая гаворыць яму:

— Калі вы прымеце мяне, вы не будзеце шкадаваць. Я павышу вам плату, як толькі выйду замуж за дырэктара!

✲

На скачках нечакана выйграў зусім невядомы конь. Журналісты адшукалі шчаслівага гаспадара і засыпалі яго пытаннямі. Гаспадар адказаў, што каню ўжо сем год.

— Чаму ж вы раней не давалі выступіць вашаму каню?

— Я не мог яго злавіць.

✲

**Суддзя.** Значыць, вы ўкралі не толькі грошы, але і каштоўнасці?

**Падсудны.** Так, сэр. Мая маці вучыла мяне ў дзяцінстве, што не ў адных грошах шчасце.



# КУРЁЗЫ

### АБ'ЯВА

Пасля доўгіх роздумаў, як зрабіць аб'яву „Асцярожна, толькі што пафарбавана" найбольш пераканаўчай, адзін маляр у Осла прыдумаў наступнае: ён павесіў на агароджу толькі што пафарбаваную дошку з надпісам: „Калі вы такія цікаўныя і жадаеце запэцкаць свае пальцы, то можаце зрабіць гэта тут".

### ЖАНЧЫНА-БАКСЁР

Наўрад ці пагодзіцца хто з тым, што жанчына на баксёрскім рынгу — нармальная з'ява. Зразумела, гэты від спорту зусім не для жанчын. Таму захапленне жанчын цяжкай атлетыкай, асабліва ў Амерыцы і Англіі, якое распаўсюджваецца і расце, мы ўспрымаем са здзіўленнем.

Але здараюцца выпадкі, калі і разважлівыя людзі скажуць, што калі-некалі жанчыне і не дрэнна мець нейкае дачыненне да цяжкай атлетыкі. Такі выпадак не так даўно адбыўся ў сталіцы Англіі, Лондане. Трыццацігадовая Джэйнс Керр позна вечарам дабіралася дадому пешшу. Раптам на яе напала група матацыклістаў-хуліганаў. І, як аказалася, яны жорстка пралічыліся, не звярнуўшы папярэдне ўвагу на моцныя плечы і біцэпсы Джэйнс Керр. Жанчына развярнулася — і ў імгненне вока адзін з напаўшых адляцеў у бок з расквашаным носам, у другога была зламана сківаца, а трэці так і застаўся ляжаць у глыбокім накаўце.

Што ні кажыце, а надалей тыя шустрыя хлопцы будуць ведаць, што далёка не кожную прадстаўніцу слабога полу можна беспакарана пакрыўдзіць.




**У брахні кароткія ногі, але доўгія рукі.**